# Маладзёвы весьнік

№1(6) Студзень 1998 Выданьне Маладога Фронту


# ВЯРТАНЬНЕ НА БАЦЬКАЎШЧЫНУ



Ад ворагаў беларушчыны часта даводзіцца чуць: "чаму ваш Пазьняк зьехаў за мяжу"? Ад прыхільнікаў — "калі ж ён вернецца"?

Зьехаў, бо для любой нацыі, якая змагаецца з акупацыяй, згуба лідара — недазвольная раскоша. Для беларусаў яшчэ і вялікае глупства, бо наш лес вырашаецца і тым, хто ачольвае барацьбу за Беларусь. І надзвычай важная пазыцыя палітычнае эліты дэмакратычных краінаў Эўропы і Амэрыкі, бо незабывайма, як нашую Беларусь усё XX стагодзьдзе дзялілі ў Рызе і Ялце, у Тэгеране і Падздаме. Дзялілі і праводзілі межы, нас нават не пытаючыся. Таму тое, што пасьпеў зрабіць на эміграцыі Зянон Пазьняк за апошнія паўтары гады нельга недаацэньваць.

Вернецца, бо Зянон Пазьняк пакінуў тут сваю зямлю й свой народ. Вернецца, каб надаць новы імпэт барацьбе з лукашысцкім рэжымам, бо сёньня зьяўляецца адзіным беларускім палітыкам, якога ведаюць усе і які атрымаў 760 тысячаў галасоў беларускіх грамадзянаў падчас прэзыдэнцкіх выбараў.

Вернецца, бо найбольш баіцца ягонага вяртаньня сам лукашысцкі рэжым, які распачаў супраць Пазьняка крымінальную справу. Рэжым, які штодня вядзе сапраўдную вайну супраць Беларускага Народнага Фронту і яго Старшыні. Чаго варты апошні, быццам з вар'ятні, лямант зімоўскага пра казачныя 32 мільёны даляраў "на подкуп прэзыдэнта".

Ня ўпэўнены, што сёньняшні прэзыдэнт будзе ўзгаданы праз дзясяткі гадоў у падручніках гісторыі. Калі хто і ўзгадае, дык толькі як хворую спробу вярнуцца ў мінулае. "Маладзёвы весьнік" дае некалькі артыкулаў лідара БНФ "Адраджэньне" Зянона Станіслававіча, каб прысьпешыць час сыходу дыктатуры. І гэта й будзе час вяртаньня на Бацькаўшчыну Беларусі.

***Віктар Несенчук***

**Сябра Цэнтральнае Рады Маладога Фронту**

## У НАШЫМ НУМАРЫ:



**Будзь разам з намі!**

## Яны сядзяць за тое, што любяць Беларусь



Вадзім Лабковіч



Вадзім Кабанчук



Аляксей Шыдлоўскі

Гэтыя хлопцы ўжо пяты месяц сядзяць за кратамі. Іх пасадзілі ў турму толькі за тое, што яны пісалі на платах "Я люблю Беларусь" альбо "Жыве Беларусь". Тыдзень таму ўказам пракурора ім падоўжылі тэрмін яшчэ на месяц. Вадзім Кабанчук дагэтуль не атрымаў перадачу ад маці -- лекі, якія яму проста неабходныя ў турэмных умовах. Вадзіму Лабковічу давядзецца здаваць усе іспыты за 11-ую клясу экстэрнам, бо па-нармальнаму вучыцца яму не даюць дагэтуль. А Аляксею Шыдлоўскаму наагул няма дзе працягнуць вучобу -- у верасьні яго выкінулі з БДУ з-за таго, што на яго заведзеная крымінальная справа.

Калі ВЫ можаце дапамагчы матар'яльна хлопцам альбо паставіць подпіс у іх падтрымку, зьвяртайцеся на адрэсу: Менск, вул.Варвашэні, 8 ( тэлефон 233-50-12 )

*Трымайцеся хлопцы, мы з ВАМІ!*

# Прывітаньне МІРОНУ



Мінуў чорны 1997 год і разам зь ім тры гады акупацыйнага рэжыму на Беларусі. Для адных гэты час — пякучая горыч і сорам за суайчыньнікаў, за людзей, за нашу краіну. Іншыя... іншыя, прывыклыя ў рабстве, і не заўважылі, якое надвор'е. Рух нашае найноўшае гісторыі, што пачалася 25 жніveня 1991 года, ёсьць працэсам Адраджэньня вольнае беларускае асобы й працэсам выміраньня нявольнікаў. Выміраньня біялягічнага, як савецкага віду і пераўтварэньня псыхалягічнага — перамена ў душы. Канфлікт нашага грамадзтва, што абвастрыла акупацыя й дыктатура, ёсьць канфлікт сьветапоглядны й духоўны. Ён адлюстроўвае кансалідацыю і Адраджэньне беларускае нацыі. Змагаюцца тыя, хто за незалежнасьць і Беларусь і тыя, хто супраць. Вось стрыжань змагарнага працэсу, які разьвіваецца цяжка, але аптымістычна, бо ініцыятыва не ў нявольнікаў, а ў свабодных. Бо дыктуе ідэя, сэрца, а не жывот.

Пытаньне: за тры гады унутранае акупацыі, якое дзеяньне рэжыму найбольш яго адлюстроўвала і якое найбольш зьняважыла і спаганіла годнасьць людзей? Я лічу,што публічны зьдзек над Беларускім Сьцягам.Гэтага нельга забыць, гэтых гарылаў на экране (дзеяньне зьнятае на відэастужку), іхныя самазадаволеныя фізыяноміі, іхныя ашчэраныя раты й найграную весялосьць гэтых садомскіх гвалтаўнікоў, што зрывалі зь дзяржаўнага флагштоку наш нацыянальны сьцяг і рвалі, шкамуталі на часткі яго сьвятасьць, пісалі на ёй свае паганыя словы. Ня ведалі, аднак, што падпісалі сабе прысуд. Такое ніколі не даруецца і ніякага суду ня будзе дастаткова і ніякі суд ня будзе прымацца пад увагу перад судом справядлівым.

Наш сьцяг — гэта сымбаль нас, сымбаль нашага зямнога і ўсяленскага йснаваньня, сымбаль нашае краіны й нашае свабоды. Таму падняцьце і ўшанаваньне гэтага сымбалю ў змаганьні ёсьць найважнейшым. Шануйма ж наш сьвяты беларускі бел-чырвона-белы сьцяг.

Чалавекам 1997 году ў гэтым сэньсе я б назваў, безумоўна, Мірона. Чалавек-легенда, чалавек-таямніца, чалавек геройскі. Уздымаючы беларускі сьцяг на недасягальную вышыню, ён выдатна прадэманстраваў рэжыму і ўсяму грамадзтву, што Беларусь жыве й пераможа. Вось прыклад эфэктоўнае барацьбы аднаго змагара. Гэта ня жарты. Па ўзроўню ўзьдзеяньня на сьвядомасьць беларусаў Мірон зрабіў больш, чым уся так званая "агульная" беларуская партыйная дэмакратыя разам ўзятая.

Слава Мірону! Слава беларускім змагарам!

Дарагія хлопцы й дзяўчаты! Пачаўся 1998 год. Працягваецца нашае змаганьне й набліжаецца нашая свабода. Не губляйма часу і старaймася, каб прыйшла яна хутчэй. А таму — не слухайма чужых "мудрацоў", не зважайма на пэсымістаў, бо, закон жыцьця такі: як мы настроеныя, так і будзе. Хто хоча перамагчы, той настройваецца на перамогу. Змагаючыся за сьветлую ідэю — за Адраджэньне Беларусі, мы павінны стварыць моцную грамадзкую атмасфэру і ўздымаць "наш беларускі вольны дух". Мы не павінны дыхаць атрутнымі міязмамі таго подлага, вальяжнага, упадніцкага паветра, якое задымілі розныя "друкары", прадстаўнікі і прадстаўніцы самых старажытных журналісцкіх прафэсыяў, усялякія палітычныя і літаратурныя саўкі бяз роду й племені, што пішуць па-расейску, абзываюць наш народ "даяркамі" і "пьяненькімі мужычкамі" і так любяць "демократію" і "Белоруссію", што, пражыўшы тут жыцьцё нават слова ня вывучылі па-беларуску (не кажу ўжо пра мову). Адварочвайцеся ад іх і не марнуйце ўвагі.

У пантэоне нашай мінуласьці і сучаснасьці ёсьць мноства сьветлых творцаў, асоб, дзяржаўных дзеячоў, духоўных настаўнікаў і сьвятых. Яны ўсе без выключэньня былі людзьмі сэрца, якое балела за родную зямлю, за мову, за песьню беларускую, за кожнага беларуса. У іх варта вучыцца вопыту жыцьця і мудрасьці змаганьня. Паўтару тое, што ўжо казаў ня раз. У палітычнай барацьбе за Бацькаўшчыну, калі сілы мала, перамагае дух. Мацуйма ж наш дух, бо рэжым спадзяецца на сілу.

Цяпер дзьве найважнейшыя задачы стаяць перад намі (якія мы пачалі ўжо ажыцьцяўляць): разгортваньне кампаніі за адстаўку лукашэнкі (збор подпісаў і г.д.) і вызваленьне з турмы нашых гераічных палітвязьняў — Вадзіма Лабковіча, Аляксея Шыдлоўскага, Вадзіма Кабанчука.

Я думаю што 1998 год адчыніць перад беларусам новыя магчымасьці, зьявяцца шанцы. Іх скарыстае той, хто не марудзіць, хто працуе, хто будзе гатовы.

***Зянон Пазьняк***
***Старшыня БНФ "Адраджэньне"***

# МІРОН вітае чэкістаў.

"Даўно штосьці Мірон сваіх сьцягоў ня вешаў" – апасьліва думалі лёзьненскія гэбэшнікі, рыхтуючыся адзначыць 80-годзьдзе сваёй чорнай канторы. - "Можа, ня стане празьнік псаваць. Усё-такі круглая дата". Так, дата круглая, як руля нагана. Як 40-мэтровая труба коміна, што ўзвышаецца над Лёзна, дзе начны Мірон ужо двойчы ўздымаў унікальныя штандары і дзе пасьля гэтага распарадзіліся зрэзаць скобы лесьвіцы на 8 мэтраў ад зямлі. У ноч на 22-е сьнежня, калі гэб'ё сабралося на свой шабаш, вакол трубы езьдзіў газік, а пражэктар асьвятляў навокал усе падыходы. "Мірон ня пройдзе" – было напісана на мужных тварах напружаных чэкістаў.

І Мірон не прайшоў. Як разьвідняла, стомленыя няспаньнем ахоўнікі выйшлі з машыны. Удыхнулі сьвежага паветра, зяхнулі ў неба і аслупянелі. На вяршыні коміна паласкаўся бел-чырвона-белы, з чарговай запіскай.

Начальнікі, выслухаўшы з пахмелу такую навіну, даліся дахам. Спачатку вырашылі дэмантаваць трубу – бо інакш сьцяг не дастанеш. Але затым прывезьлі грузавік пакрышак, спалілі іх у коміне, даўшы копаці. Сьцяг пачарнеў. Тутэйшыя анархісты забалдзелі ад радасьці: над райцэнтрам пад новы год рэяў "вясёлы роджэр".

Выглядае вельмі сьвяточна, кажуць сьведкі. Толькі зірнеш, адразу думаецца: "80 год КГБ". І цяплей на душы, і халадком аддае ў патыліцу.

...І дзесьці пасьмейваецца сабе Мірон.

# Рэспубліка Ічкерыя: ШАМІЛЬ ВЯРТАЕЦЦА

ЧАЧЭНІЯ



Шаміль Басаеў

**Р**асея ў траньсе. Прэзыдэнт Ічкерыі, Аслан Масхадаў, распусьціў свой урад і даручыў ягонае фармаваньне Шамілю Басаеву, нацыянальнаму чачэнскаму герою, сьмяротнаму ворагу імпэрскае Масквы. Нагадаем: роўна год таму на прэзыдэнцкіх выбарах у Чачэніі Масхадаў і Басаеў падзялілі асноўныя галасы. Шаміля назвалі "палітыкам №2" у Грозным. Несумненна, Басаеў для Расеі – сымбаль ганебнай паразы ў вайне, прывід Будзёнаўска, разгромленых вайсковых карпусоў і прыніжальных перамоваў чарнамырдзіна-лебедзя.

"Палітык №3", віцэ-прэм'ер Чачэніі Маўладзі Удугаў, якога справядліва лічаць асноўным ідэолягам і тэхнолягам здабыцьця незалежнасьці, згодны з Масхадавым: "гэты ўрад ня здолеў абслугоўваць нашыя інтарэсы, у першую чаргу – інтарэсы нацыянальнай бясьпекі." Паводле кампэтэнтнае інфармацыі, чачэнскія лідары вырашылі найперш умацаваць сілавыя ведамствы. Спадарам Закаеву, Ярыханаву хутчэй за ўсё давядзецца пакінуць свае пасады й саступіць іх людзям Шаміля.

"Басаеў справіцца", — упэўнены Аслан Масхадаў. Масква, падобна, таксама баіцца таго, што Шаміль справіцца і з фээсбэшнымі правакацыямі, і з захопам заложнікаў, і з крыміналам.



Аслан Масхадаў

Прэс-служба Крамля рыхтуецца да грымотных заяваў. Тым часам Масхадаў, не губляючы часу, паведаміў, што візыт ельцына ў Грозны магчымы толькі з адной мэтаю: падпісаць дамову аб узаемным прызнаньні.

***Наш спэцкор***
***у Грозным***
**Басай Удуговіч.**

# Валдас Адамкус: ЗРАБІЦЬ КАМУНІСТАЎ.

ЛЕТУВА

**І** ўсё ж-такі Адамкус зрабіў гэта. Сэнсацыйныя вынікі летувіскіх прэзыдэнцкіх выбараў зараз абмяркоўвае увесь сьвет.

Два тыдні таму, калі стаўленік колішняй намэнклятуры, прыдаўленай Расеяй, 44-хгадовы Артурас Паўлаўскас, набраў у 1-ым туры 45% галасоў, мала хто сумняваўся ў яго перамозе паводле схемы "Лукашэнка-94" (лічбы тыя ж). Супернікам Паўлаўскаса (26%) аказаўся 70-гадовы пэнсыянэр-эколяг, да таго ж амэрыканскі грамадзянін – ну хіба можна знайсьці лягчэйшага супраціўніка для "молодого, многообещающего политика из новой генерации решительных, динамичных прагматиков) (расьпіналася ОРТ)! Расейскія СМІ сьпявалі ад радасьці, ведамства Прымакова ўжо рыхтавала ружовыя фіранкі для новага "вакна ў Эўропу", гэбэшнікі пускалі сьлінку ў прадчуваньні рэваншу над пачынальнікамі распаду СССР... "Вот оно, чюдо..." – шэпча імпэрыя.

І цуд здарыўся. Летувіская нацыя, уражаная першатуравай перамогай прарасейшчыны, трывожна страпянулася — у сьвяточныя навагоднія дні масава выйшла зрабіць свой выбар. Яўка выбаршчыкаў (75%!) нашмат перавысіла паказьнікі 1 туру...

Калі пачалі паступаць першыя вынікі (Вільня, традыцыйна "левы" электарат), здавалася: усё паводле пляну. Аграмадная перавага Паўлаўскаса. Расейская тэлевізія сарвалася ў хваласьпевах. І раптам – даныя з Каўнаса, з узьбярэжжа, з Аўкштоты: Адамкус, Адамкус, Адамкус! Агаломшаная намэнклятура, параскрываўшы раты, сачыла, як паказьнікі Адамкуса імкліва набліжаюцца да рэйтынгу суперніка; урэшце стала ясна, што гэты рост – вырашальны. Адамкус набраў 50%, унікальным рыўком перакуліўшы ўсе статыстычныя раскладкі й чаканьні імпэрыі.

У гэты дзень шкада было глядзець на разгубленых дыктараў ОРТ і РТР, жаласна чытаць ашарашаныя апраўданьні расейскіх газэтных карэспандэнтаў... "мы же проигралі так немного— всего 0,6%!.." Не, яны прайгралі ўсё. Стопрацэнтова Валдас Адамкус – прэзыдэнт Летувы. На бліжэйшыя гады ў незалежнай Беларусі будзе моцны сябра пад бокам – Незалежная Летува.

P.S. Малады Фронт накіраваў новаабранаму прэзыдэнту Летувы віншавальную тэлеграму і... спачуваньні Паўлаўскасу, ельцыну ды ФСБ.

***Наш карэспандэнт у Вільні***
**Максімас Багданавічус.**

# Сьпіхнуць Спыхальску !

ПОЛЬШЧА

Польская "Салідарнасьць" салідарная зь беларускай апазыцыяй, а таму патрабуе зьмены польскага амабасадара ў Менску. На думку "Акцыі Выборчай Салідарносьці" (АВС) Эва Спыхальска ў сталіцы Беларусі ігнаруе нацыянал-дэмакратычных палітыкаў і арыентуецца на афіцыёзныя пралукашэнкаўскія колы. Днямі ўрад Польшчы ў вельмі жорсткай форме запатрабаваў ад прэзыдэнта Квасьнеўскага адклікаць Спыхальску й прыняць меры да наладжваньня дыялёгу зь "бел-чырвона-белай" грамадзкасьцю. Квасьнеўскі ў цяжкім становішчы. З аднаго боку, ён адзін зь нешматлікіх эўрапейскіх палітыкаў, якія ўсё яшчэ спадзяюцца дамовіцца з сашам, а таму дазваляюць яму шмат якія вольнасьці. Зь іншага боку, беларускі цёзка няўжарт разьюшыў прадстаўнічыя празаходнія сілы, а "Салідарнасьці" застаецца толькі кіўнуць у бок Бону й Вашынгтону. "Весьніку" здаецца, што Спыхальска ўсё ж будзе адкліканая і ейнае месца зойме хтосьці з нашых. Прынамсі, салідарных з намі.

***Прадстаўнік МВ ў Варшаве***
**Лях Пшэкоўскі.**



Зянон Станіслававіч Пазьняк -- Старшыня Беларускага Народнага Фронту "Адраджэньне"

# Зацемкі па практычнай паліталогіі

Беларуская нацыя ў небясьпецы, але ніхто не адмяняў законаў прыроды. Палітычны працэс мае свае заканамернасьці і свае правілы. Можаш іх не выконваць, але сонца ўсё роўна будзе выходзіць і заходзіць. Таму ня трэба старацца быць разумнейшымі за Бога. Некаторыя, праўда, з палітычнае дураты робяць прафэсію і самасьцьвярджаюцца ўсё жыцьцё, коштам іншых. Аднак у нас цяпер пры акупацыйным рэжыме гэтакія гульні аплочваюцца коштам Бацькаўшчыны. Таму першае правіла ў палітыцы: перш чым яднацца трэба разьдзяліцца. Інакш замест арганізацыі будзе клюб вар'ятаў.

Аб'ядноўвацца трэба па ідэі і па ідэалёгіі, якая выпрацоўваецца з ідэі. Наша ідэя ёсьць Беларускай ідэяй. Нашая ідэалёгія — Адраджэньне.

Калі ідэі няма, то няма і прынцыпаў, няма й палітычнае маралі, няма й арганізацыі. Можа існаваць хіба што фантом і "лідэры" фантому.

Другое правіла — маніфэстацыя.

Гэтае правіла фундамэнтальнае. Пра свае ідэі, мэты, пра іхнае абгрунтаваньне і дасягненьне трэба гаварыць адкрыта, для ўсіх, галасна і прылюдна.

Толькі так можна здабыць прыхільнікаў і дасягнуць высакароднай мэты. У Эвангельлі такія дачыненьні адлюстраваныя ў выслаўі Хрыста пра запаленую сьвечку.

Трэцяе правіла — структурызацыя. Арганізацыя павінна мець структуры. Наяўнасьць структураў стварае ўзаемазалежнасьць і сацыяльную аснову для стабільнасьці і пасьлядоўнасьці палітычных прынцыпаў, паколькі ў кіраўніцтва ўводзіцца фактар адказнасьці. Структуры даюць сілу арганізацыі.

Чацьвертае — трыманьне ініцыятывы.

Прынцып абавязковы. У палітыцы не адпачываюць. Хто трымае ініцыятыву, той і вядзе палітыку, той можа й завалодаць сытуацыяй. Бальшавікі і энкавэдысты надавалі гэтаму правілу першачарговае значэньне ў змаганьні з апанэнтамі (ці "ворагамі" па-бальшавіцку). У іх нават было выслоўе: "ня можаш перашкодзіць — стань на чале". Памятаю дзесьці 26-27-жніўня 1991 г. адразу пасьля прыпыненьня дзейнасьці КПСС у Беларусі я з Сяргеем Навумчыкам прыехаў у апусьцелы будынак ЦК КПБ-КПСС. У спэцыяльным падвале адмысловая печ для спальваньня паперы. Пад нагамі растрэсеная макулятура. Першая паперына з адбіткам абзацу, якую падняў з цэмэнтавай падлогі Сяргей, была рэзалюцыйнай часткай пратаколу паседжаньня бюро ЦК ад 8-га жніўня 1988-га года, на якім было сказана, што,



улічваючы дзейнасьць народных франтоў у Прыбалтыцы і абставіны ў Беларусі, вызначыць належныя захады па недапушчэньні арганізацыі нацыяналістаў у БССР. Было прынята рашэньне стварыць беларускі "народны фронт" сіламі "парціі". Прапрацоўка гэтага пытаньня і арганізацыя псэўдафронту была даручаная сакратару Менскага гаркаму КПБ-КПСС па ідэалёгіі П.К. Краўчанку.

Пятае правіла — суб'ект падзеяў. (Яно вынікае з 4-га). Палітычная арганізацыя павінна быць суб'ектам дзеяньняў. Лічыцца павінныя зь ёй, а не наадварот. І будаваць паводзіны трэба гэтак, а не інакш. Палітычная праца ня церпіць ніякае пасыўнасьці.

Шостае правіла: палітыка — гэта час. (Бывае нават момант). Для датрыманьня гэтага правіла акрамя ўсяго, нажаль, патрэбныя яшчэ талент і інтуіцыя. Ніякія вучоныя рэгаліі, адукацыя, розум, аўтарытэт (выдатнае навучаньне ў школе і г.д.) тут не дапамогуць, калі працягнеш (страціш) час, ня выкарыстаеш яго ў сваім моманце і "цягнік паедзе".

З гэтым зьвязанае сёмае правіла — адэкватнасьць. Павінна быць правільная і рэальная ацэнка сытуацыі, прадбачаньне пэрспэктывы. Адсутнасьць такой ацэнкі, ці памылковае ўспрыняцьце рэчаіснасьці прыводзіць да неадэкватных дзеяньняў, вынікі якіх могуць быць самыя найгоршыя. Датрыманьне гэтага правіла знаходзіцца ў беспасрэднай залежнасьці ад першаснага аб'яднаўчага прынцыпу — ідэі і ідэалёгіі. Яскравым прыкладам неадэкватнасьці зьяўляюцца паводзіны С. Шарэцкага, В, Ціхіні, Г. Карпенкі, П. Краўчанкі і інш. падчас лістападаўскага перавароту ў 1996 г. Поўнае неразуменьне маскоўскай палітыкі, нябачаньне сытуацыі, прывяло да таго, што іх адкрыта і нахабна купілі, а яны і па сёньня думаюць, што не прадаліся, хоць пайшлі з Лукашэнкам, Чарнамырдзіным, Селязьнёвым, Строевым на юдаў фуршэт запіваць гарэлкай "победу" "здравого смысла". (Яшчэ і пішуць пра гэта, маўчалі б ужо).

З правіла адэкватнасьці вынікае восьмае правіла — бачыць апанэнта. Яго трэба ўмець бачыць заўсёды, нават патэнцыяльнага (як у каратэ), нават віртуальнага. Інакш будзеш хадзіць на фуршэты са сваімі магільшчыкамі.

Дзявятае правіла (ізноў фундамэнтальнае, шматразова адлюстраванае ў Бібліі): не сядаць за стол з бандытамі. Для людзей з канфармісцкай сьвядомасьцю і

асабістымі амбіцыямі, якіх заўсёды хапае ў палітычных партыях, гэта камень на якім яны пэрыядычна ламаюць сабе ногі, скручваюць шыі і цягнуць у яму цэлыя арганізацыі. Ім хочацца быць у цэнтры ўвагі, удзельнічаць у гульні, якая ім здаецца палітыкай. Ім хочацца братацца, ўступаць у перамовы зь вялікімі нягоднікамі прылюдна і на віду, не аналізуючы чаму ініцыятыва такіх перамоваў і братаньня заўсёды ідзе выключна ад вялікіх нягоднікаў і кіруючай сфэры. Ім (вялікім нягоднікам) трэба маральна легітымізаваць сябе праз прызнаньне апанэнтаў (якія б селі зь імі за стол), потым прадставіць гэта як супрацоўніцтва; потым зваліць віну за сваю палітыку на "супрацоўнікаў", якія, маўляў, ня выканалі дамоўленасьцяў. А калі гэткія палітычныя дурні пачнуць яшчэ дыскусію ды апраўданьні, ды ўзаемныя абвінавачваньні, то ўсё зразумела: будзе сказана, што, замест таго, каб разам працаваць, яны перашкаджаюць (мешают) і што каб не яны, то ўсё было б інакш. І будзьце спакойныя — грамадзтва



ўспрыме гэта належным чынам (сядзелі ж за адным сталом, чаго яны там не падзялілі, абое рабое і г.д.) Усё гэта альфабэт, які даўно пройдзены яшчэ ў змаганьні са "школай камунізму".

Перамаўляць з бандытамі за сталом можна толькі з пазыцыі сілы і калі гэтая сіла ня меншая чым у бандытаў.

Дзесятае важнейшае палітычнае правіла — не абагульняцца з чужымі. Гэта контрапазыцыя. Спэцслужбы ўлады, урадавыя кіруючыя сілы (асабліва ў паўдэмакратычных і дыктатарскіх, таталітарных краінах) выкарыстоўваюць клясычны прыём супраць небясьпечных апазыцыйных утварэньняў, якія прэтэндуюць пӗрарасьці ў сілу. Супраць іх утвараюць арганізацыю, падобную, але з больш шырокімі, дакладней больш агульнымі мэтамі і задачамі і стараюцца ўцягнуць у яе гэтую небясьпечную апазыцыйную партыю, ці рух (пад выглядам аб'яднаньня дэмакратычных сілаў і т.п.). Што адбывалася б потым — зразумела. Так узьнікалі ў палітычным паветры розныя фантомы тыпу "Новая Беларусь", "Новая Украіна", розныя "вёсны", беларуская, ды ўкраінская "пэрспэктывы" і г.д. (Для Беларусі і Украіны выкарыстоўваюць адну матрыцу).

Другі мэтад той жа працы, які распаўсюджаны ў краінах былога сацлягеру (сфэры ўплыву КДБ) — гэта стварэньне спэцслужбамі шэрагу дробных партыяў, якія пачынаюць лямантаваць пра неабходнасьць арганізацыйнага адзінства дэмакратычных сілаў, жаліцца, што іх крыўдзяць і абвінавачваюць небясьпечную для ўлады апазыцыйную арганізацыю ў развале гэтага "адзінства", у манаполіі на дэмакратыі і г.д. На Украіне і Беларусі такая мэтодыка барацьбы з "Рухам" і з БНФ была галоўнай. Большыня дробных партыяў і там і тут створаны пры ўдзеле органаў савецкага КДБ і ягонай агентуры. У 1991 годзе пасьля правалу камуністычнага путчу, частка партыйнай агентуры "пасыпалася". Некаторыя кіраўнікі "партыяў" у Беларусі далі са страху інтэрвью ў друк пра свае супрацоўніцтва з КДБ і адыйшлі ў цень. Іншыя "целяпаюцца", але ўплыў іх мізэрны.

Гэтыя мэтодыкі спэцслужбы выкарыстоўваюць ужо амаль сто гадоў. Яны ўсім вядомыя. Але справа не спыняецца. Чаму? Таму што на ўсялякага мудраца хапае прастаты. Каб лавіць рыбу трэба замуціць ваду. Дурні нідзе й ніколі не перавядуцца.

Адзінаццаты прынцып: не разлучацца. Не разлучацца са сваімі. Людзі-аднадумцы, палітыкі з адной ідэалёгіяй не павінныя разьядноўвацца і ствараць паралельныя арганізацыі з аднолькавымі задачамі, мэтамі й праграмамі. Гэта прыводзіць да нерацыянальнага выкарыстаньня патэнцыялу і зьмяншэньня ўдзельнай вагі агульнай працы (плюс суб'ектыўныя выдаткі і г.д.)

Дванаццатае правіла мусіць быць нормай катэгарычнай мадэлі паводзінаў у палітычнай арганізацыі і асабліва ў вызвольным руху — сваіх бараніць. У палітыцы гэтая норма павінна стаць абсалютнай і безагляднай. Тут ня толькі маральнае дачыненьне. Гэта зарука дапамогі й салідарнасьці ў барацьбе. Публічнае асуджэньне і непадтрымка свайго ў той час, калі яго асуджаюць і топяць палітычныя апанэнты, павінна разглядацца як здрада.

Разумеючы гэтае катэгарычнае правіла, трэба ўсьведамляць, што змаганьне за вызваленьне з турмы нашых геройскіх сяброў — Вадзіма Лабковіча, Аляксея Шыдлоўскага, Вадзіма Кабанчука — ёсьць маральным і палітычным абавязкам усіх сяброў арганізацыі, які неабходна спаўняць.

Правілаў палітычнага захаваньня, паводзінаў арганізацыі ў палітычным полі, гэтак жа як і ў штодзённым жыцьці, ёсьць вельмі шмат. Я спыніўся пакуль што на гэтых дванаццаці, бо мне здалося, што на іх трэба засярodзіцца.

Аднак для нас, беларусаў, якіх справядліва высьмейваюць за нікчэмную "талерантнасьць", варта на мой пагляд навучыцца ў палітыцы аднаму ўнівэрсальнаму правілу — засвоіць здольнасьць казаць "не". Гэтая здольнасьць ёсьць увогуле ўмовай фармаваньня асобы і характару чалавека, псыхалягічнай адпорнасьцю на зло. Калі такой адпорнасьці няма, чалавек нікчэмна пагаджаецца і цярпіць любую мярзоту (я называю такую паталёгію — "любоў да падонкаў"). Толькі ў грамадзтве, дзе ссунутыя крытэрыі, людзі, якія здрадзілі Бацькаўшчыне і нацыі, прывялі да ўлады Лукашэнку, адмянілі нацыянальны сьцяг і Пагоню (зацьвердзілі адмену), душылі сілай



страйк у менскім мэтро, аддавалі загады зрываць бел-чырвона-белыя сьцягі і ўсяляк падтрымлівалі Лукашэнку, ягоны рэжым, антыбеларускую палітыку хунты, прадалі Беларусь у лістападзе, толькі ў такім бесхарактарным, бесхрыбетным, атручаным, дапалітычным асяроддзі гэткія людзі могуць плаваць на паверхні, ды яшчэ ў камуфляжы апазыцыі, герояў і "сумленьня нацыі". Там жа, дзе грамадзтва жыве якраз па сумленьні, па праўдзе, па здаровым розуме, па-боску і па-людзку, гэткія істоты ў палітыку не вяртаюцца. Да іх ставяцца йнакш. Бо здрада адбываецца адзін раз. Калі грамадзтва зноў прапусьціць людзей з гумовымі прынцыпамі да ўлады, гэта будзе горш за лукашызм, бо прывядзе да поўнай дэмаралізацыі беларускага грамадзтва (я ўжо не кажу пра іхную гатоўнасьць прадацца Маскве). А Беларусь.. Беларусь ніколі такім дзеячом не абходзіла. Яны жывуць не ў Беларусі, а ў асяроддзі, што ня ўмее казаць "не".

***Зянон Пазьняк***
***Старшыня БНФ "Адраджэньне"***

## *Зянон Пазьняк:*

# ДОСЫЦЬ ПРЭЗЫДЭНЦТВА



**Ліст да грамадзянаў Беларусі аб адстаўцы Лукашэнкі.**

Яшчэ год таму назад я не зьвярнуўся б з такім лістом да беларускіх людзей. Бо яшчэ жыло ў іх перакананьне, што яны зрабілі разумна і правільна, выбраўшы Лукашэнку, што "прэзыдэнту перашкаджаюць", што вінаваты ва ўсім ня ён, а таемныя "ворагі". Відавочна, яшчэ не ўсе каменьні былі кінутыя і ў мой бок, як "ворага прэзыдэнта". Волей лёсу мне прыходзілася папярэджваць яшчэ ў 80 -х гадах аб злачыннасьці КПСС і аб немінучасьці распаду Савецкага Саюза. Потым — аб здрадніцтве і прамаскоўскай палітыцы Кебіча, аб небяспецы рускага імпэрыялізму, аб плянах усталяваньня прамаскоўскай паліцэйскай дыктатуры Лукашэнкі на Беларусі, аб пагрозе незалежнасьці і дзяржаўнаму існаваньню нашай краіны, аб задуме вяртаньня таталітарызму на абшарах былога СССР. Гэта, паўтараю, сказана не цяпер, а два, тры, пяць, дзесяць гадоў назад. Але нашаму грамадзтву, відаць, наканавана спачатку нікога не ўспрымаць, а потым усё неўспрынятае перажыць. І гэтак — бясконца.

Ці не настаў усё ж час прыняць правільнае калектыўнае рашэньне?

Мне скажуць: калі ты думаеш правільна — чаму ж ты не перамог? Перамога наперадзе. Але справа не ў гэтым. Я не перамог разам з вамі. Мы разам пацярпелі паражэньне. У 1994 годзе прымітыўна ашукалі ўвесь беларускі народ. А тыя, хто гэта ашуканства бачыў і разумеў, нічым не маглі дапамагчы. Колькі ж яшчэ трэба часу, якіх ахвяраў, якіх страт, якіх прыкладаў і зьняваг нашай беларускай годнасьці, якога яшчэ трэба пагаршэньня, каб гэтае ашуканства ўсьвядоміць і зразумець? Ці не пара?

Пытаньне аб немінучай адстаўцы Лукашэнкі зноў пастаўлена Народным Фронтам. Цяпер ужо ня дзейнічае прававы механізм "імпічманту", бо ўсталявана дыктатура. Але з дыктатурай можна пасьпяхова змагацца сілавым масавым грамадзкім націскам на дыктатара ва ўсіх сфэрах жыцьця — у палітыцы і грамадзкай дзейнасьці, у навуцы і мастацтве, у прафсаюзным руху і на працы, на вуліцах і ў друку, нават у быце і штодзённых дачыненьнях. Усё павінна быць падпарадкавана адной мэце "Лукашэнка, ідзі ў адстаўку!"

Падтрымлівайце ў гэтых дзеяньнях і палітыцы Беларускі Народны Фронт — Вызвольны Рух, які трымае ў руках нацыянальны сьцяг беларускага Адраджэньня. Падтрымлівайце актыўна. Перад нашай масавай сілай і агульным непрыняцьцём дыктатуры шмат што пачне зьмяняцца. Нават хаўрусьнікі Лукашэнкі стануць ад яго аддаляцца і яго пакідаць. Яго загады перастануць выконваць нават тыя, на каго ён спадзяецца. Зямля паплыве з-пад ног гэтага авантурнага чалавека. Адстаўка стане рэальнай.

Аднак змагаючыся за адстаўку Лукашэнкі мы павінны памятаць, што галоўная наша палітычная задача, якую ўвесь час сьцьвярджае Народны Фронт, і да чаго мы імкнемся, гаворачы пра адстаўку, — гэта ліквідацыя ўвогуле прэзыдэнцкай сістэмы на Беларусі і скасаваньне пасады прэзыдэнта. Беларусь мусіць быць не прэзыдэнцкай а парляманцкай краінай. Інакш узьнікне новы дыктатар, ці паўдыктаар, і новая маскоўская марыянетка.



Чаму? — спытаеце вы. Таму што, па-першае, Маскве і яе спэцслужбам лёгка ўмяшацца і паўплываць на ход падзей, калі абіраць на вышэйшую пасаду аднаго чалавека, а не 260. Правёўшы свайго чалавека на беларускі пасад (як гэта лоўка яны зрабілі з Лукашэнкам), маскоўцы будуць аб'ектыўна зацікаўленыя ў павелічэньні яго ўлады, каб лепш трымаць Беларусь.

Парлямант у 260 асобаў (ды з розных партыяў) не можа стаць дыктатарам. Парляманцкая сістэма ўжо па сваёй фармальнай сутнасьці прадугледжвае элементы дэмакратыі. Гэта шлях да дэмакратыі, і школа дэмакратыі для грамадзтва.

Але трэба ўлічваць, што нашае грамадзтва — постсавецкае. Наш чалавек за часы расейскай і бальшавіцкай акупацыі прывучаны слухаць начальства, а не закон. Бо ён жыў пры азіяцкім рэжыме, дзе галоўным было — ўлада, а не законы, дзе было так, як начальства скажа. Людзі, выхаваныя ў такіх умовах, чакалі і спадзяваліся на добрага начальніка, а не змагаліся за гарантыі ажыцьцяўленьня права, роўнага для ўсіх (для начальнікаў і неначальнікаў). Гэтакія грамадзкія акалічнасьці якраз і спрыяюць ажыцьцяўленьню дыктатуры, Шляхам жа да яе ў такіх умовах служыць прэзыдэнцкая сітэма ўлады. Пра гэта дэпутаты Апазыцыі БНФ папярэджвалі і ў 1991 годзе, калі ў атачэньні Кебіча ўпершыню ўзьнікла ідэя прэзыдэнцтва, і ў 1994 годзе, калі Вярхоўны Савет галасаваў за Канстытуцыю.

Пасьля адстаўкі (ці адхіленьня) Лукашэнкі ад пасады адразу павінны быць праведзены парляманцкія выбары. Выбары новага парляманту па старым недасканалым выбарчым законе будуць, безумоўна няпростыя, але ў цэлым прадказальныя, каб гарантаваць зьмену паламанай парляманцкай Канстытуцыі 1994 года (у частцы разьдзела аб прэзыдэнце) і вярнуцца да парляманцкай рэспублікі. Парлямант фармаваў бы ўрад, і прызначаў бы прэм'ер-міністра, які аваладаў бы функцыямі кіраўніка дзяржавы. У выпадку парляманцкага крызысу і немагчымасьці стварыць урад рашэньне аб роспуску парляманту і новых выбарах прымае Канстытуцыйны Суд. Гэтакая традыцыйная парляманцкая сістэма стала б для беларусаў крокам наперад, крокам да лепшай будучыні.

Беларускі Народны Фронт прапануе беларусам абапірацца перш за ўсё на самім сябе, і праводзіць такую палітыку, якая забясьпечвала б становішча людзей і ўзровень жыцьця, як у эўрапейскіх краінах, а не як у Расеі. Дзеля гэтага і супрацоўнічаць трэба найперш з Эўропай, і рабіць шмат што гэтак, як яны, бо мы, беларусы — народ эўрапейскі.

Змагаючыся з дыктатурай, мы павінны сваё змаганьне засьведчываць. Гэта пазбаўляе людзей страху і надае ўпэўненасьці, аб'ядноўвае аднадумцаў. Лукашэнка і яго памагатыя павінны ведаць, што людзі іх не баяцца, і адкрыта патрабуюць, каб прэзідэнт ішоў у адстаўку. Прапаную сьмела далучацца да ініцыятывы Беларускага Народнага Фронту аб адстаўцы Лукашэнкі і ліквідацыі дыктатуры ў Беларусі.

**Зянон Пазьняк**
Старшыня Беларускага
Народнага Фронту
"Адраджэньне"

*Маладзёвы весьнік*

# Я ЗМАГАЮСЯ ЗА НЕЗАЛЕЖНАСЬЦЬ... НЕГВАЛТОЎНЫМІ МЭТАДАМІ

Дзень 21 сьнежня 1997 года быў для мяне незвычайным. Вы ведаеце чаму? А таму, што ў гэты дзень мне ў рукі ўпершыню трапіў часопіс "Супольнасьць". Дзякуючы артыкулу "198 мэтадаў негвалтоўнага змаганьня з рэжымам", я зразумеў, што ў мяне ёсьць шанец выратаваць усю Беларусь. Я зразумеў, што я адзін магу зьнішчыць таталітарны рэжым на Беларусі. Але ж, усё па парадку.

22 сьнежня 1997 года я прачнуўся ў надзвычай добрым настроі – я ведаў, што праз колькі гадзінаў дыктатарскі рэжым зьнікне з Беларусі. Зьнікне, дзякуючы мне і часопісу "Супольнасьць".

Так, сваю барацьбу я пачаў са зьнішчэньня сваёй маёмасьці – я зламаў кніжную шафу, кніжкі паляцелі ўслед за відэамагнітафонам і тэлефонам – у фортку. Туды ж паляцелі ўсе астатнія рэчы, акрамя тэлевізара. Яго я вырашыў пакінуць, каб хоць неяк даведвацца аб выніках сваёй барацьбы з рэжымам. І, як аказалася, зрабіў правільна – уключыўшы яго, я ўбачыў дыктарку, якая ў роспачы спрабавала растлумачыць гледачам, з якое нагоды Ціцянкоў сёньня пайшоў у адстаўку. Гэтая падзея страшна мяне ўзрадавала і надала сьмеласьці – я вырашыў змагацца больш шырока – на вуліцы. Я выйшаў і на дарозе адразу ж убачыў рэгуліроўшчыка, з якім і вырашыў змагацца. Я хуценька распрануўся ў знак пратэсту, вопратку акуратненька склаў на ходніку і, зразумела, зьнішчыў у знак пратэсту (гэта ж свая маёмасьць). Рэгуліроўшчык вельмі зьдзіўлена на мяне глядзеў. Тады я вырашыў прымяніць яшчэ пару мэтадаў. Я сабраў крыху сьмецьця на ходніку і сымбалічна запаліў. Пасьля я пачаў скакаць вакол вогнішча і выдаваць пры гэтым сымбалічныя гукі. Азірнуўшыся на рэгуліроўшчыка, я пабачыў, што той вельмі хутка балбоча нешта ў рацыю. Мне гэта не спадабалася, і я вырашыў прымяніць мэтад "дэманстратыўны сыход", але ж не пасьпеў: да мяне пад`ехала машына з надпісам "Хуткая дапамога", з якое выбеглі два "амбалы" ў белых халатах, схапілі мяне й запхнулі ў машыну. Цяпер я зразумеў: мяне баяцца! Таксама я зразумеў чаму: дзякуючы маёй барацьбе з рэжымам усё "кіраўніцтва" Беларусі, акрамя лукашэнкі, разыйшлося па адстаўках. Я зразумеў, што мне не жыць. Пакуль я ўсё гэта "уразумляў", машына прыпынілася ля нейкага маленькага старэнькага будынку, на якім вісела шыльдачка "шпіталь". "Гэта канспірацыя" – зразумеў я, але ж зрабіў выгляд, што нічога не прыкмеціў. Мяне завалаклі ў нейкі белы пакой, дзе стаялі толькі два ложкі, на адным з якіх сядзеў мужык і мармытаў сабе пад нос "Я Напалеон!", "Я Напалеон!". Зразумела, я яму не паверыў (знайшоў дурня, га!), але ж сьцяміў, што гэта агент КДБ, і трэба паводзіць сябе асьцярожней. Я, зразумела, спужаўся, але не паказаў гэтага. Я успомніў (клас!) круцейшы мэтад – выкрыцьцё сакрэтных агентаў. Я ўбіў сабе ў галаву, што то ёсьць агент (такім чынам, я яго выкрыў). "Але ж трэба зь ім пазмагацца", — падумаў я і ліхаманкава пачаў успамінаць іншыя мэтады. Я машынальна павярнуўся да яго сьпіною, хацеў распрануцца, але ж успомніў, што вопратку сваю я зьнішчыў у знак пратэсту. Тады я спачатку пачаў сядзець у знак пратэсту, пасьля стаяць. Мужык занэрваваўся. Ну, і я вырашыў яго проста такі дабіць: прымяніць страшнейшы мэтад – бясконцыя прамовы. Ён пачаў біцца ў перадсьмертнай агоніі...

У гэты момант дзьверы адчыніліся і забегла цэлая "брыгада" баевікоў у белых халатах. Я зразумеў, што ў выніку маёй барацьбы лукашэнка нарэшце пайшоў у адстаўку, што я ўжо зьнішчыў дыктатарскі рэжым на Беларусі. Я зразумеў, што мяне за гэта забьюць. Але ж я ведаў, што паміраю не за сябе, а за вольную Беларусь, што я зрабіў усё што можна. Я ведаў, што прыму сьмерць годна – бо я НЕГВАЛТОЎНЫ ЗМАГАР!

***Цімафей Дранчук***

# ВУСАТЫ СЬНЕГАВІК !!!




Маладзёвы веснік

Гэта той час

**Калі вы хочаце атрымоўваць кожны наступны нумар "Маладзёвага весьніка" для сябе і сваіх знаёмых, зьвяртайцеся на тэлефон *(017) 236-50-76* (клікаць Цімафея) ці на адрэсу: г.Менск, 220088, вул. Іванаўская, 38-16 (Цімафей Дранчук,"МВ") і паведамляйце колькасьць асобнікаў, якую вы здольныя распаўсюдзіць.**

*Маладзёвы веснік*

**Выходзіць з 1997 года**
**Заснавальнік** "Малады фронт"
**Галоўны рэдактар** Павал Севярынец
**Адказны за макет і вёрстку** Цімафей Дранчук
**Рэдкалегія:** Павал Севярынец, Сяржук Паўленка, Алесь Асіпцоў, Цімафей Дранчук, Віктар Несенчук, Яўген Скочка, Валянцін Стэфановіч, Аляксей Шэін
**Наклад** 199 асобнікаў
**Тэл.\факс для кантактаў** --- (017) 236-50-76 (Цімафей)
**Адрэса:** Менск, 220088, вул. Іванаўская, 38-16 (Цімафей)

*Адказнасьць за матар`ял нясе аўтар*
*Спасылка на "Маладзёвы весьнік" пры перадруку абавязковая*